Бог, Беларусь, Воля!

# Голас Краю

№ 2(13), 2001 год Газэта беларускіх нацыяналістаў www.spa-kraj.org



## Школа нацыяналістаў

«КРАЙ» рыхтуе новую эліту...(стар 4)



## Беларуская збройная сіла

«Войска - гэта гарантыя незалежнасьці краіны, гэта абароньца нацыі ад агрэсіўных суседніх дзяржаваў». (стар 6 - 7)

## Са «Згодай» ня згодныя

Зьневажаюць ды крыўдзяць толькі таго, хто дазваляе гэта рабіць. Мы такой раскошы сабе дазволіць ня можам... (стар 11)

# «Увесь час памятай, што ты адказваеш за лёс усяе Беларусі»

# На д'ябла – крыж, на ворага – шабля

Амаль сем гадоў таму на першых прэзыдэнцкіх выбарах перамог А. Лукашэнка. Што прынесьлі гэтыя гады нашаму Краю? У якім становішчы апынулася Беларуская Нацыя? Што чакае Беларусь ў бліжэйшы час? На гэтыя і іншыя пытаньні паспрабуем даць адказ у гэтым артыкуле.

Жыцьцё ўсёй Нацыі й жыцьцё кожнага чалавека на гэтай зямлі праходзіць праз белыя й чорныя палосы. На пэўных гістарычных прамежках часу Краіна квітнела й дасягала моцы і пашаны сярод эўрапейскіх народаў. Калі нацыянальная эліта драбнела, а часам, нават, здраджвала свайму народу, Беларуская Нацыя трапляла ў чорную паласу свайго існаваньня, каб праз пэўны час, пераадолеўшы перашкоды, зноў заняць сваё пачэснае месца. Апошнія дзьвесьці гадоў былі самым вялікім выпрабаваньнем у жыцьці нашага народу. Русыфікацыя й палаянізацыя, Курапаты й Хатыні, гарэлка ды Чарнобыль вялі Беларусь да фізычнага й духоўнага заняпаду й сьмерці. Аднаго акупанта зьмяняў наступны й, здавалася, што беларусы ўжо ніколі ня здолеюць вырвацца з гэтага зьнішчальнага віру. Але напрыканцы 80-х сьвядомая беларуская моладзь ізноў узьняла сьцяг барацьбы. Камуністычны монстар быў павалены й, нарэшце, ў 1991г. да беларусаў прыйшла незалежнасьць, аб якой марылі і за якую змагаліся тысячы патрыётаў нашай Бацькаўшчыны.

Аднак тагачасная беларуская эліта ня здолела згуртаваць вакол нацыянальнай ідэі беларускае грамадзтва. У выніку, камуна-калгасная намэнклятура ізноў падняла галаву.

Пра «фэнамэн» Лукашэнкі за гады ягонай дзейнасьці было напісана шмат разнастайных артыкулаў. Прычым сярод гэтых публікацыяў пераважалі эканамічныя выкладкі ды



звароты да міжнароднай супольнасьці, якія, на жаль, не даюць адказу на галоўнае пытаньне: «Як Беларускаму Народу скінуць новыя кайданы няволі».

Беларускія нацыяналісты лічаць памылковым разгляд «фэномену Лукашэнкі» толькі з сацыяльна-эканамічнага ды палітычнага боку, як гэта робяць большасьць аналітыкаў ад апазыцыі. Дзеля таго, каб ажыцьцяўляць эфэктоўныя дзеяньні па абароне нацыянальных інтарэсаў, трэба прааналізаваць ды асэнсаваць глыбінны зьмест рэжыму Лукашэнкі. Чаму так здарылася, што пасьля непрацяглага тэрміну адносна нацыянальнай свабоды, на Беларусь зноў апусьцілася цемра? Можа за тое, што на плошчах нашых гарадоў і мястэчак стаяць чыгунныя ідалы тырана Леніна й іншых маскоўскіх-бальшавіцкіх людажэраў. Мы пакутуем. За што? Можа за тое, што вуліцы нашых гарадоў маюць назвы крывавых катаў Беларускага Народу. Можа за тое, што выракліся й забылі свае гісторыю ды мову, а нацыянальна сьвядомыя беларусы адчуваюць сябе як у рэзэрвацыі. Можа за тое, што наш народ адыйшоў ад хрысьціянства і замяніў веру ў выратаваньне душы на культ «чаркі й шкваркі». Чаму менавіта на Беларусь абрынулася 70% Чарнобыльскага попелу, хаця аварыя адбылася ў суседняй краіне. А нашыя «браты-расейцы» дапамаглі асадзіць радыяцыйныя хмары на Магілёўскую вобласьць. Можа гэта Божае пакараньне за бездухоўнасьць і здраду. Можа Беларускаму Народу даецца яшчэ адна магчымасьць асэнсаваць сытуацыю і прадухіліць зьнікненьне слаўнай краіны.

Здавалася б, што «кіраўніцтва» Краіны павінна біць у званы і прадпрымаць тэрміновыя захады па спыненьню фізычнай і духоўнай дэградацыі народу. Але што мы назіраем у рэчаіснасьці - «праваслаўны атэіст» сем гадоў запар цьвердзіць пра «правільнасьць абранага курсу». Сямімільнымі крокамі ППРБ і ягоная кліка вядуць Беларускую Нацыю да труны. За гады кіраваньня Лукашэнкі беларусы выйшлі на першае месца ў сьвеце па спажываньні алькаголю на чалавека і пры гэтым, нават, абагналі Расею. Па колькасьці абортаў мы на другім месцы, пасьля ЗША. Па колькасьці асуджаных і закратаваных уваходзім у першую дзесятку. А калі дадаць Чарнобыль, катастрафічнае падзеньне нараджальнасьці, дрэннае харчаваньне ды мэдычнае абслугоўваньне, высокі ўзровень сьмяротнасьці, то становіцца зразумелым, чаму за час уладараньня Лукашэнкі колькасьць беларусаў скарацілася больш чым на 300 000 чалавек. Гэта статыстыка. Яна паказвае ў якім жахлівым стане знаходзіцца фізычнае здароў'е Нацыі. Але ёсьць

**«Магутны Бог чакае ад цябе ня сьлёз, не пасыўнага роздуму, а мужнасьці й актыўнага жыцьця»**

яшчэ й іншы бок праблемы - гэта здароўе духоўнае. Наступствы духоўнай дэградацыі складана акрэсьліць нейкімі сацыялягічнымі дасьледваньнямі. Гэтыя наступствы праяўляюцца адразу, як толькі выходзім на вуліцы нашых гарадоў. Праявамі гэтага працэсу зьяўляюцца й брудная расейская лаянка ў грамадзкім транспарце, і п'яныя кампаніі каля пад'ездаў нашых дамоў, і несуцяшальныя крымінальныя зводкі, і сатанінскія сэкты, і змаганьне прадстаўнікоў гэтак званай эліты з хрысьціянскімі сымбалямі... Варта згадаць, як у траўні 1999 г., на сьвята Троіцы, ашалелы ад выпітага натоўп душыў маладых дзяўчат у пераходзе на Нямізе. Гэтае злачынства й сёньня хавае ўлада. А калі прыгадаць, што выбары ППРБ прыйшліся на гэтак званы сатанінскі дзень, то становіцца зразумелым, якія сілы цяпер знаходзяцца ва ўладзе. Сёньняшняй прэзыдэнцкай «камандзе» астролягаў і экстрасэнсаў пазайздросьціў бы нават Гітлер, вядомы сваімі акультнымі захапленьнямі. Гэтыя «магі» паўсюль суправаджаюць патрона і дапамагаюць яму ўпэўнена адчуваць сябе ў розных сытуацыях. У нетрах адміністрацыі даўно цыркулюе інфармацыя, што Лукашэнка з задавальненьнем праглядае стужкі расстрэлаў злачынцаў, дарэчы, за ўвесь час прэзыдэнцтва ён ніводнага разу не адмяніў сьмяротнага прысуду.

Чаго Беларуская Нацыя можа дачакацца з такім лідарам? Ілюзіі наконт «добрага бацькі» зьнікаюць нават у самай люмпэнізаванай частцы нашага грамадзтва - калгасьнікаў і жыхароў маленькіх мястэчак. Гэтыя людзі былі першымі пакараныя за свой неабачлівы выбар. Працаваць ў калгасах за 15-20 тысячаў знаходзіцца ўсё менш жадаючых. Як кажуць ў нашым народзе: «Няма худа без дабра». За сем гадоў нацыянальнага прыніжэньня й духоўнага разбурэньня ў Беларусі падрос і загартаваўся пласт сьвядомай моладзі, які ўздымае штандар барацьбы.

Гэтая кагорта барацьбітоў якасна адрозьніваецца ад гэтак званых «грантасмокавых» і псэўданацыяналістычных арганізацыяў, найперш усьведамленьнем уласнай адказнасьці за лёс Бацькаўшчыны. Пасьля шматлікіх выпрабаваньняў, беларускія нацыяналісты загартаваліся як маюць быць загартаваныя сапраўдныя байцы нацыянальнай рэвалюцыі.

Над Беларусьсю дзьме вецер зьменаў, і мы выходзім на змагарны шлях з лёзунгам нашых продкаў: «На д'ябла - крыж, на ворага - шабля».

**Сотнік Чорны**

Акцыі

# Памяць пра герояў

Мы ведаем: героі не паміраюць, яны жывуць сярод нас, глядзяць на нас, радуюцца й сумуюць разам з намі. Мы ў адказе перад сваімі продкамі, бо яны далі нам жыцьцё. Яны ўсімі сіламі абаранялі наша права на свабоду, на годнае месца пад сонцам. Яны змагаліся за нас, здабываючы незалежнасьць. Мы памятаем нашых герояў і імкнемся быць вартымі лепшых з іх. Еднасьць усіх пакаленьняў Беларускай Нацыі нягледзячы ні на што, жыве, а значыць, Нацыя будзе жыць. Пацьверджаньнем гэтай думкі стала акцыя, праведзеная рэйдавай групай арганізацыі «КРАЙ» 24-25 сакавіка. Акцыя была прымеркаваная адразу да дзьвюх значных падзеяў гісторыі Беларусі: дня нараджэньня правадыра антымаскоўскага паўстаньня 1794г. Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі і дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918г. У Дзень Волі арганізацыя «КРАЙ» усталявала вянок, аздоблены бел-чырвона-белай стужкай, на могілках жаўнераў войска БНР генэрала Булак-Булаховіча.

У Сяхновічах, родавым маёнтку Касьцюшкаў, да помніка кіраўніку найбуйнейшага ў васямнаццатым стагоддзі нацыянальна-вызвольнага паўстаньня таксама быў ускладзены вянок са стужкаю. Вялікі Беларус, які стаў нацыянальным героем у Польшчы і ў ЗША, не ўшаноўваецца цяпер у нацыянальным маштабе на Радзіме. Брыгадны генэрал, якому не знайшлося месца ў войску Вялікага Княства Літоўскага. Наш Вялікі Рыцар, пра якога саромеюцца гаварыць «інтэлігентныя» абываці. Высокаадукаваны военачальнік, пра якога баяцца казаць уголас «інтэлектуальныя» цемрашалы. Хто ён для нас? Легендарная постаць нашай слаўнай мінуўшчыны ці рамантызаваны пэрсанаж чужога раману? Нязломны змагар за незалежнасьць або шукальнік прыгодаў? Толькі ў Сяхновічах пачынаеш разумець, хто ён. Толькі там усьведамляеш, якога генія спарадзіла беларуская зямля.

Ушаноўваем яго памяць. Словы тут непатрэбныя. Мы разумеем адзін аднаго і бяз слоў. Моўчкі мы далучаемся да яго й да ўсіх жывых, мёртвых і ненароджаных беларусаў. Мы - Нацыя. Мы паўсталі. Мы наступаем. Нас «не разьбіць, не спыніць, не стрымаць».

Надыходзіць час звароту да свайго гістарычнага досьведу, які вучыць нас бараніць сваё любым шляхам. Бараніць Край, як баранілі яго каліноўцы. Змагацца за волю, як змагаліся мужныя случчакі, ажыцьцяўляць ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, якая абвяшчала: «Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны й незалежны Край».

**Сяржук Вашкевіч**

**«Тваім найбольшым гонарам і тваёй годнасьцю ёсьць сіла і веліч Беларусі»**

# Школа нацыяналістаў

Беларускія хлопцы й дзяўчаты наведваюць школы,тэхнікумы,ВНУ ды іншыя навучальныя ўстановы ў пошуках новых ведаў, розуму. Толькі лета й вакацыі прыносяць моладзі збаўленьне ад залікаў, іспытаў і кантрольных. Нягледзячы на нежаданьне вучыцца, маладыя людзі разумеюць неабходнасьць ведаў і адукацыі.

Раней адукацыя была адзінай надзеяй і магчымасьцю дасягнуць павагі, дабрабыту. Адукацыя - гэта багаж, зь якім моладзь выпраўляецца ў людзі. Для беларусаў гэта паняцьце азначае многае...

Школа - гэта і вялікая сялянская хата, поўная груба зьбітых лаў, сталоў ды вучняў розных узростаў зь першай у жыцьці кніжкай-лемантаром. Польскі настаўнік-сэмінарыст вучыць дзяцей польскім малітвам ды словам, жорстка карае за "мужыцкую" мову і высьмейвае прыналежнасьць да беларускай нацыянальнасьці. Школа - гэта й былы панскі дом, адданы пад школу, завешаны чырвонымі кумачовымі палотнішчамі зь пэрламі клясыкаў марксізму-ленінізму, вітаньнямі чарговых угодак рэвалюцыі ды напамінамі пра высокі абавязак чырвоных піянэраў-марозаўцаў. Галодныя дзеці слухаюць у настылых, даўно ня топленых памяшканьнях пра слаўныя, гераічныя савецкія дні.

Школа - гэта лясны будан у сямейным партызанскім лягеры з ашматкамі абгортачнай паперы ў якасьці сшыткаў, сокам бручкі замест атраманту ды школьным званком, зробленым з пустой артылерыйскай гільзы. Налёты нямецкіх самалетаў, партызанскія вогнішчы ды вера ў тое, што хутка ўсе жахі скончацца.

Школа - гэта выхаваньне ў духу сацыялізму, піянэрыя ды камсамол, першае каханьне, забарона на беларускае, разыходжаньне з "агульнай" думкай...

Школа - для кожнага свая. Зімой 2001 года арганізацыяй "КРАЙ" была зарганізавана Школа беларускага нацыяналіста для тых, каго цікавіць дзейнасьць яе сяброў, хто жадае далучыцца да нацыянальна-вызвольнага змаганьня. Школа ахапіла ўсю Беларусь. У некалькі заходаў гэтыя курсы прайшлі маладыя нацыяналісты з розных рэгіёнаў нашай Бацькаўшчыны. Патрэба ў такой школе існавала даўно. Навучаньне на курсах складалася з ідэялягічнага ды фізычнага вышкаленьняў. Заняткі цягнуліся цэлы тыдзень. Кожны дзень быў расьпісаны, вольнымі былі толькі хвіліны на тое, каб пераапрануцца, крыху адпачыць у перапынках паміж заняткамі. Добрай, плённай працай можна разьвіць сябе, спазнаць ды ўдасканаліць.



Краёўцы вучацца перамагаць

Гэта й зьяўлялася мэтай школы-вышкалу: загартаваць свой дух і ўмацаваць арганізм, успрыняць і засвоіць ідэялёгію беларускага нацыяналізму, асноўныя веды па паводзінах у экстрэмальных умовах, мэдычнай, палітычнай, юрыдычнай падрыхтоўцы, канспірацыі.

Школа месьцілася на лясным хутары ў заходняй частцы Беларусі. Маляўнічыя пэйзажы кранулі прыгажосьцю ды хараством, асабліва раніцай, калі ружовы сьвітанак напаўняе ўсё навокал сьвятлом новага дня, іскрыцца сьнег. У школе панаваў дух беларускасьці і пабрацімства.

Раніца пачыналася з агульнага пад'ёму, руханкі ды "душа" - абціраньня сьнегам.

Рэшткі начнога сну і млявасьць зьнікаюць адразу, цела поўніцца энэргіяй. Потым - час для сьняданку, перад якім абавязкова чытаецца малітва. Затым ідуць тэарэтычныя заняткі, пасьля абеду ўсе адпраўляюцца на адмыслова падрыхтаваную пляцоўку, дзе займаюцца "фізухай" - рукапашным боем ды фізычнай падрыхтоўкаю.

Самае цікавае чакала напрыканцы тыдня, калі навучэнцы праходзілі практыку. Праводзіўся трэнеіровачны напад на табар, імітаваліся допыты і сытуацыі псыхалягічнага ўціску. Пры гэтым вывучаліся мэтодыкі, падыходы, мадэлі.У ролі "ахвяры" змог пабываць кожны.

Ад'езд выклікаў усеагульную радасьць і задавальненьне тым, што хутка выпрабаваньні скончацца. Радавала ўсьведамленьне таго, што ты выстаяў, вытрываў, разьвіўся - перамог...

**Усяслаў Беларус**

**«Толькі такі народ , які абапіраецца на нацыянальных вартасьцях, можа ператрываць усе жыцьцёвыя буры ды не разьбіцца на часткі»** *В. Гадлеўскі*

На здымку: жаўнера Беларускай Краёвай Абароны Аўгена Краскоўскага адпяваюць у Карэліцкай праваслаўнай царкве. Побач з труной стаяць яго сваякі, баявыя сябры і аднавяскоўцы. Фотаздымак друкуецца ўпершыню

# Загінуў геройскай сьмерцю

Уначы з 26 на 27 красавіка 1944 года ў мястэчка Карэлічы ўварваліся чырвоныя партызаны. Мэтай іх нападу былі кашары, дзе разьмяшчаліся мабілізаваныя ў Беларускую Краёвую Абарону мясцовыя хлопцы. Аднак на шляху лясных валацугаў стаў малады падафіцэр Наваградзкага беларускага эскадрону Аўген Краскоўскі...

Сам эскадрон Барыса Рагулі якраз выправіўся ў прапагандовы рэйд па Наваградчыне ды ў час нападу быў у Гарадзішчы. У Карэлічах знаходзілася невялікая група "рагуляўцаў", задачай якіх быў адбор хлопцаў у Наваградзкі батальён БКА. У ноч нападу ў кашарах дзяжурыў Аўген Краскоўскі. Менавіта дзякуючы яму, чырвоныя партызаны ня здолелі захапіць кашары. Краскоўскі з ручным кулямётам у руках выскачыў з будынка, паліваючы ворага чэргамі стрэлаў, і адбіў атаку. Аднак і сам загінуў сьмерцю героя ў гэтым баі ад разрыўной кулі...

Аўгену Краскоўскаму, маладому беларускаму нацыяналісту, быў толькі 21 год. Ён нарадзіўся ў вёсцы Краснае, што каля Карэлічаў. Быў настаўнікам па адукацыі. Пісаў вершы на роднай мове (захаваўся толькі адзін). У 1943 годзе ён вырашыў далучыцца да збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі ды ўступіў у Наваградзкі эскадрон Барыса Рагулі. І загінуў на баявой постані, каб жыла Беларусь.

**Міхась Г.**



Аўген Краскоўскі

## «Калі хочаш жыцьця пасьля сьмерці, рабі дабро пры жыцьці»

# БЕЛАРУСКАЯ ЗБРОЙНАЯ СІЛА

Войска - гэта гарантыя незалежнасьці краіны, гэта абаронца нацыі ад агрэсыўных суседніх дзяржаваў. Дзесяткі гадоў панаваньня маскоўскага бальшавізму на Беларусі беларусы былі пазбаўлены магчымасьці мець сваё войска, а былі вымушаны служыць у акупацыйнай арміі. Па ўсім сьвеце раскіданыя тысячы могілак маладых беларускіх хлопцаў, якія загінулі за маскоўскія імпэрскія інтарэсы ў Аўганістане, Анголе, Эгіпце... Бальшавіцкую традыцыю працягвае Лукашэнка. Ён хоча, каб беларусы зноўку прымнажалі чужую вайсковую славу ў Чачэніі, Абхазіі, Таджыкістане, паўсюль, куды пнецца расейскі лапаць. Таму зьнішчаецца беларуская сутнасьць і дух нашае арміі. На кіруючыя пасады прызначаюцца маскалі, каб вызначаць, з кім беларускаму народу сябраваць, а з кім ваяваць.



Падафіцэры БКА падчас заняткаў

Але так ня будзе! Наш народ пад маскоўскай і польскай акупацыяй ня схіліў галавы перад заваёўнікамі. У акупантаў не атрымалася пазбавіць беларусаў нацыянальна-дзяржаўнай сьвядомасьці й годнасьці. Кожнае пакаленьне нараджала змагароў за вольнасьць і незалежнасьць Радзімы. У вырашальныя моманты гісторыі беларусы браліся за зброю, каб аднавіць вольную, незалежную нацыянальную дзяржаву. Падчас Другой сусьветнай вайны беларуская збройная сіла паўстала ў форме Беларускай Краёвай Абароны (БКА).

Падчас нямецкай акупацыі 1941-44 гадоў Беларусь сталася арэнай змаганьня сталінскага й гітлераўскага рэжымаў. Арганізаваная бальшавіцкім урадам савецкая партызанка пад прыкрыцьцём «барацьбы зь нямецка-фашысцкімі захопнікамі» вынішчала нацыянальна-сьвядомае беларускае насельніцтва. За партызанскія правакацыі немцы палілі беларускія вёскі разам з жыхарамі, расстрэльвалі закладнікаў-беларусаў, масава вывозілі моладзь у Нямеччыну. У Заходняй Беларусі лякальна дзейнічала польская партызанка Арміі Краёвай (АК), на сумленьні якой масавыя забойствы беларускіх сялянаў і інтэлігенцыі. А яшчэ на тэрыторыі нашай краіны дзейнічалі розныя расейскія вайсковыя аддзелы, што былі на службе ў фашыстаў, ды не шкадавалі мясцовага беларускага насельніцтва... Сапраўдным беларускім патрыётам стала зразумела, што гэта можа прывесьці да непапраўных народных стратаў, пасьля якіх Беларусь ужо ня здолее адрадзіцца. Трэба было мабілізаваць усе сілы, каб вызваліцца з-пад нямецкага й расейскага панаваньня ды здабыць уласную дзяржаву - гарантыю захаваньня Нацыі.

Ужо ў 1941 годзе беларускія нацыяналісты арганізуюць структуры канспірацыі, якая пачала зьбіраць сілы для абароны народу і здабыцьця Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы. Дзейнічалі некалькі падпольных арганізацый, утварыліся нацыянальныя партызанскія аддзелы. Аднак, ва ўмовах нізкай нацыянальнай сьведамасьці беларусаў, нацыяналістычны рух не адмаўляецца ад выкарыстаньня легальных сродкаў дзей-

**«Ня ведаць гісторыі - значыць заўсёды быць дзіцём»** *Цыцэрон*

насьці. Утвараецца шэраг арганізацыяў, якія працуюць сярод моладзі, сялян і работнікаў, інтэлігенцыі, уздымаючы іх нацыянальную сьведамасьць. Але найважнейшай справай стала тварэньне беларускага войска. Немцы баяліся беларускай збройнай сілы і ўсяляк перашкаджалі яе росту й цэнтралізацыі. Створаная ў 1942 г. Беларуская Самаахова праз год была распушчаная.

Пасьля паразаў на ўсходнім фронце акупанты пайшлі на саступкі і ў лютым 1944-га дазволілі стварэньне Беларускай Краёвай Абароны. Немцы (як і бальшавікі) не чакалі, што мабілізацыя ў БКА дасьць такія ашаламляльныя вынікі. Дзесяткі тысячаў беларускіх мужчын выказалі жаданьне са зброяй у руках бараніць сваю Бацькаўшчыну ад ворага. Батальёны БКА паўставалі, нягледзячы на перашкоды спалоханых акупантаў, у Менску, Слоніме, Навагрудку, Слуцку, Баранавічах, Глыбокім...

Начальнікам Галоўнага Кіраўніцтва БКА быў прызначаны маёр Франц Кушаль. Ён стварыў галоўны штаб БКА, былі прызначаны акруговыя начальнікі БКА. Распачалася актыўная праца па мабілізацыі ў БКА - рыхтаваліся будынкі для кашараў, скліkаліся народныя сходы, дзе людзі даведваліся, што ўпершыню ў гісторыі Беларусі Беларускі Народ паклікаецца ў беларускае войска беларускімі ўладамі. Паўсюль ідэя Краёвай Абароны сустракала вялікую прыхільнасьць з боку беларусаў, абуджаючы ў іх дух ваяўнічых продкаў і прагу гнаць прэч чужынцаў з родных прастораў.

На гадавіну абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі адбылася ўрачыстая прысяга байцоў БКА. На вернасьць і адданасьць Радзіме прысягалі афіцэры, падафіцэры й стральцы БКА на пляцы Волі ў Менску, у іншых гарадах. Беларускія вайскоўцы кляліся ня выпусьціць з рук зброі, «пакуль ня будзе зьнішчаны на нашай зямлі апошні вораг Беларускаму Народу».

У Менску былі наладжаныя курсы перашкаленьня афіцэраў і створаная школа для кадэтаў. Батальёны БКА праходзілі вайсковую падрыхтоўку, прызначаныя прапагандовыя афіцэры вялі ідэялягічную працу. Эфэктоўнасьці беларускай збройнай сілы замінала адсутнасьць уніформы. Але вернасьць сьвятой беларускай справе была настолькі вялікая, што байцы саматужна шылі й фарбавалі кашулі ды пілёткі ў патрэбны колер. На пілётках нашывалі значкі «Пагоні», а на левым рукаве Крыж Ярылы. У бой за Беларусь шыхты БКА ішлі пад марш П. Нядзьведзкага.:

**Ідуць жаўнеры-беларусы**
**Празь вёскі, сёла, гарады,**
**Перамагаць усе прымусы**
**Што нам нясьлі вякі, гады.**

**Сьцяг бел-чырвона-белы вольны**
**У сэрцы кажнага зь іх,**
**Жаўнер Краёвай Абароны**
**На варце стаў правоў сваіх...**

Каля 28 тыс. беларусаў узялі ў рукі зброю. Яны гатовыя бараніць Бацькаўшчыну ад прыхадняў з Усходу й Захаду. Людзі прарываліся ў аддзелы БКА нават з занятых савецкімі партызанамі тэрыторый. Па заканчэньні мабілізацыі было арганізавана 39 батальёнаў пяхоты па 500-600 чалавек у кожным. Немцы паспрабавалі стрымаць рост шэрагаў БКА - не давалі патрэбнай колькасьці зброі, абмундзіраваньня, харчу - але было ўжо позна. Мара беларускіх нацыяналістаў зьдзейсьнілася - беларускае войска было створанае. І хоць афіцыйна камандуючым БКА лічыўся маёр Кушаль, рэальная ўлада праз вайсковы актыў Беларускай Незалежніцкай Партыі была ў старшыні ЦК БНП, афіцэра БКА 24-гадовага Ўсевалада Родзькі. Менавіта ён плянаваў напрыканцы чэрвеня 1944 г. узьняць у Менску антыфашыстоўскае паўстаньне й абвесьціць незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Галоўнай сілай паўстаньня павінны былі быць якраз аддзелы БКА...

Батальёны БКА з годнасьцю несьлі прыняты на сябе абавязак абароны насельніцтва нашай краіны ад зьдзекаў і тэрору чырвоных партызанаў, польскіх акаўцаў, расейскай РОА і нават нямецкіх аддзелаў выяўлялі вялікую вытрымку й цьвёрдасьць у баях.

Летам 1944 г. аддзелы БКА адыходзілі на Захад, бо на Беларусь вярталіся бальшавіцкія войскі. Частка БКА апынулася ў Нямеччыне, адкуль немцы перакінулі яе далей на заходні фронт. Згодна сваёй мэце, беларускія вайскоўцы не ўздымалі зброі супраць змагароў з фашызмам і пры першай нагодзе пераходзілі на бок саюзьнікаў. За гэта немцы распраўліся з некаторымі кіраўнікамі БКА. Фашысты зьнішчылі бясстрашнага маёра Віталя Мікулу, сябра БНП Уладзіміра Бітуса. Яшчэ на Беларусі фашысты разграмілі Слуцкі штаб БКА: быў закатаваны заступнік мясцовага начальніка БКА капітан Янка Каляда, выслалі ў канцлягеры лейтэнантаў Алеся Адзярыху і Анатоля Куліка, у турме апынуўся й акруговы начальнік БКА Сьцяпан Шнэк, якога выратаваў ад расстрэлу прэзыдэнт БЦР. Але і заходнія саюзьнікі ставіліся да паняволеных бальшавікамі народаў ня лепей. Некаторых перайшоўшых да французаў, ангельцаў, амэрыканцаў беларускіх жаўнераў здрадліва здалі ў рукі саветаў. У сталінскія лягеры быў кінуты камандзір 1-га батальёну беларускага палка А. Сокал-Кутылоўскі, расстраляны камандзір аддзелу БКА А. Ясюк, сотні іхных паплечнікаў зьнішчаныя энкавэдзістамі й сьмершаўцамі.

Другая частка Беларускай Краёвай Абароны, чакаючы на дапамогу заходніх дзяржаваў у змаганьні з камуністычнай няволяй, засталася на Бацькаўшчыне ў лясах і пушчах і распачала вызвольную барацьбу супраць маскоўска-бальшавіцкіх акупантаў. Да яе далучыліся беларускія вайсковыя аддзелы, якія прабіліся зь Нямеччыны. Гэтая гераічная партызанская й падпольная барацьба доўжылася больш за дзесяць гадоў. На жаль, хутка Захад дамовіўся з камуністамі аб падзеле сьвету на «зоны ўплыву», што не дало мажлівасьці зьнішчыць бальшавіцкую пагрозу, а беларусам аднавіць вольнасьць і незалежнасьць дзяржавы.

**Юрась Глінскі**

**«Беларускі нацыяналізм плыньню жыватворных ідэяў забясьпечвае несьмяротнасьць Беларускай Нацыі, акрыляе народ у барацьбе за перамогу яго найвышэйшых ідэалаў»**

# Ці здольны «Край» на крайнасьці?

Некалькі гадоў назад у горадзе над Бугам быў зафіксаваны ўсплеск актыўнасьці прыхільнікаў арганізацыі «Русское национальное единство». Быццам на злосьць, праз кароткі прамежак часу улёткамі на сьценах дамоў заявіла пра сябе нейкая беларуская арганізацыя «КРАЙ» (якая да сёньняшняга дня не прайшла дзяржаўнай рэгістрацыі ў органах юстыцыі, таму дзейнічае фактычна нелегальна). Таксама нацыяналістычная, але зь іншымі прыярытэтамі і – галоўнае – куды больш таямнічая. У адрозьненьне ад «разрэклямаваных» сродкамі масавай інфармацыі баркашоўцаў, зьяўленьне на Берасьцейшчыне «КРАЮ» не суправаджалася газэтнымі артыкуламі і тэлевізійнымі ток-шоў. Не было колькі-небудзь заўважнай рэакцыі й сярод гараджанаў. Хіба толькі ў тых, каму цікавіцца такімі рэчамі належыць з службовага абавязку. Напрыклад, у журналістаў.



Ушанаваньне герояў Слуцкага Збройнага Чыну

Аднак «КРАЙ» працягвае ненадзойліва нагадваць пра сябе й па сёньняшні дзень – увогуле ўжо больш за два гады. Дадатковай жа нагодай зьвярнуцца да гэтае тэмы стаў нядаўні інцыдэнт у вулькаўскай СШ № 37. Пайшла пагалоска, быццам мужчынскую прыбіральню «замінавалі» менавіта краёўцы. Падазрэньне гэтае хутчэй за ўсё беспадстаўнае – прадстаўнікі сьледчых органаў камэнтаваць такія чуткі не бяруцца. Але ў любым выпадку, факт існаваньня арганізацыі «КРАЙ», вырашылі мы, пакінуць бяз увагі ніяк нельга.

## Асабістыя ўражаньні

Знайсьці сябра арганізацыі аказалася справаю няпростай, але выканальнай. Гэтыя хлопцы наведваюць пікеты й мітынгі, якія праводзяцца пад эгідай беларускай апазыцыі. Аднак сваёй прысутнасьці не афішуюць, трымаюца ўбаку. Адна з асноўных прыкметаў краёўца – камуфляжная форма бяз знакаў адрозьненья – таксама не зьяўляецца надзейным ідэнтыфікатарам. Насіць «камуфляжку» моладзь любіць, і не беручы ўдзелу ў дзейнасьці напаўпадпольных фармаваньняў.

Падзейнічала адрасаваная сябрам «КРАЮ» прапанова карэспандэнта «Вечерки» распавесьці праз газэтумэты й задачы арганізацыі шырокай публіцы, якая недахоп інфармацыі схільная кампэнсаваць самымі неверагоднымі выдумкамі. Карацей, кантакт быў усталяваны.

.Такім чынам, распавесьці пра дзейнасьць «КРАЮ» ўзяўся невысокі хударлявы малады чалавек гадоў дваццаці з гакам, у цывільным адзеньні, інтэлігентны й сьціплы, які карыстаецца для штодзённых зносінаў беларускаю мовай. Пра арганізацыю ён казаў стрымана, прапускаючы многія прывабныя для газэтніка падрабязнасьці. Трымаўся ўпэўнена, але не агрэсіўна. Паведаміць любую інфармацыю пра сябе – акрамя імя – адмовіўся. Імя ў артыкуле прасіў ня згадваць, таму назавем яго Алесем. Цалкам пабеларуску.

Ці бываюць сутыкненьні паміж гэтымі дзьвюма арганізацыямі? Мой суразмоўца распавёў, як ён і ягоныя таварышы выязджалі з асаблівым заданьнем у Кобрын – апору РНА на Берасьцейшчыне, – дзе зрывалі ўлёткі баркашоўцаў і перавыхоўвалі іх саміх. Пры гэтым апошнія быццам бы не змаглі даць хлопцам з «КРАЮ» годнага адпору. У гэтым, вядома, можна было б усумніцца, асабліва, калі параўнаць кволы целасклад апавядальніка і вельмі разьвіты – большасьці маіх «знаёмцаў» з РНА. З другога боку, ТТХ (тактычна-тэхнічныя характарыстыкі. – **Кар.**) аднаго жаўнера яшчэ не даюць уяўленьня пра магчымасьці ўсяго войска.

## «КРАЙ» звонку

Пабочнай асобе складана атрымаць выразнае ўяўленьне пра «КРАЙ».

# «Лёс баіцца храбрых і падаўляе палахлівых»

Улёткі пра многае не распавядуць, а іншай інфармацыі практычна няма.

Між тым, арганізацыя выдае незарэгістраваную газэту «Голас Краю». У кастрычніку мінулага году выйшаў юбілейны нумар, прысьвечаны двухгоддзю зь дня нараджэньня «КРАЮ» (дакладная дата – 20 кастрычніка). У прынцыпе, гэтая крыніца не разьлічана на масавую аўдыторыю – «Голас Краю» не набудзеш у звычайным шапіку, яго не падкінуць у паштовую скрыню і не паспрабуюць уручыць вам на вуліцы.

Праўда, выпісаць газэту ўсё-такі можна – на апошняй старонцы пазначаны нумар пэйджару й абанэнцкае скрыні. Тым ня менш, выдаўцы прынялі ўсе неабходныя меры перасьцярогі, каб выпадковы чалавек ня змог знайсьці ў газэце дакладныя зьвесткі, напрыклад пра сябраў арганізацыі альбо месцы іхніх сустрэчаў. Так, нататка на першай паласе падпісана проста: «Галоўны камандзір арганізацыі «КРАЙ». Не чалавек, а функцыя – гэта цалкам адпавядае тым прынцыпам, на якіх арганізацыя пабудавана.

На дванаццаці старонках фармату А4 (такі аб'ём «Голасу Краю»; выдрукаваны ён друкарскім спосабам, а не з дапамогаю офіснай аргтэхнікі) зьмяшчаецца шмат здымкаў, на якіх адлюстраваныя людзі ў плямістай форме – у шыхце, на маршы, у час трэніроўкі (альбо «вышкалу», як кажуць краёўцы), вакол ляснога вогнішча. Усе твары сьвядома размытыя. На здымках мільгаюць хрысьціянскія сымбалі. У бел-чырвона-белага сьцяга сярэдняя паласа усюды прадстаўленая у абрамленьні дзьвюх вузейшых чорных. Алесь патлумачыў мне, што гэта азначае жалобу: краіна знаходзіцца «пад акупацыяй».

У працэсе размовы з краёўцам у мае рукі трапіла яшчэ сёе-тое з друкаванай прадукцыі, што выпускаецца арганізацыяй. Гэта ўлёткі, выдадзеныя ад імя «Аддзелу прапаганды Берасьцейскага зьвязу «КРАЮ», а таксама маленькія буклеты, якія зьмяшчаюць адказы на некаторыя пытаньні, што датычацца беларускае гісторыі. Напрыклад, «якія войны прынесьлі найбольшыя страты беларускаму народу?» або «як бальшавікі рэфармавалі беларускую мову?» Прапанаваныя ў гэтых буклетах зьвесткі у першай палове мінулага дзесяцігоддзя зусім адкрыта друкаваліся ў падручніках па гісторыі Беларусі для школаў і ВНУ. Не сакрэт, што ў наступныя пяць гадоў зьмест асобных беларускіх гістарычных кніг быў моцна перагледжаны і стаў у большай ступені адпавядаць тым стандартам, якія былі прынятыя ў даперабудовачныя гады.

**Андрэй Някрасаў, «Варшаўскі мост»**

Падчас акцыі на Крапівенскім полі.




# «Каб хутчэй перамагчы, трэба доўга рыхтавацца»

*Публій Сір*

# «З радыкальнымі ідэямі выступалі многія»

**Зьяўленьне ў Беларусі нацыяналістычнае арганізацыі, накшталт «КРАЮ», можа здацца чымсьці новым толькі чалавеку, які кепска знаёмы з айчыннай гісторыяй. Так, большая частка розных грамадзка-палітычных аб'яднаньняў, што дзейнічалі на беларускіх тэрыторыях на мяжы пазамінулага і мінулага стагоддзяў, кіраваліся зусім не ідэаламі марксізму, як вучылі нас старыя савецкія падручнікі.**




Агульнавядома, што спасьцігнуць сутнасьць многіх сучасных зьяваў дапамагае вывучэньне мінуўшчыны. Таму мы прапанавалі падзяліцца думкаю пра «КРАЙ» знанаму спэцыялісту ў галіне гісторыі Беларусі, загадчыку катэдры гісторыі славянскіх народаў Берасьцейскага дзяржунівэрсытэту **Уладзімеру Здановічу**.

***– Уладзімер Васілевіч, ці можна параўнаць сучасную нацыяналістычную арганізацыю «КРАЙ» зь беларускімі вызваленчымі арганізацыямі, якія дзейнічалі у дзевятнаццатым – пачатку дваццатага стагоддзях?***

– Калі ўзяць дзевятнаццатае стагоддзе, то асноўнымі арганізацыямі вызваленчага кшталту на тэрыторыі Беларусі былі менавіта маладзёвыя, студэнцкія фармаваньні. Спачатку амаль усе яны мелі непалітычныя мэты, напрыклад, вялі асьветніцкую працу. Аднак паступова дзейнасьць такіх арганізацыяў набыла палітычны характар. Прыкладам могуць быць арганізацыі, якія зьявіліся ў Віленскім унівэрсытэце – «Шубраўцы», «Філяматы», «Прамяністыя», «Філярэты». Спачатку яны, існуючы пры навучальнай установе, вырашалі толькі выхаваўчыя задачы. Пазьней сталі палітычнымі. Былі беларускія арганізацыі – «Гоман», «Аб'яднаньне студэнтаў у Пецярбургу», іншыя – і ў расейскіх навучальных установах. У іх удзельнічалі ўраджэнцы Беларусі. Спачатку ў гэтых арганізацыях была папулярнай ідэя аўтаноміі ў складзе Расеі, але пазьней усе прыходзілі да ідэі незалежнае Беларусі. Дарэчы, у Віленскім унівэрсытэце надзялялі вялікую ўвагу фізычнай падрыхтоўцы. Многія арганізацыі выконвалі й гэтую функцыю – прапаганда фізычнае культуры. Як лічаць некаторыя дасьледнікі, гэта рабілася для таго, каб у будучыні мець трэніраваных змагароў за незалежнасьць свае краіны. Зрэшты, гэта толькі гіпотэзы.

***– Напэўна існавалі арганізацыі, створаныя адмыслова для змаганьня?***

– Адной зь першых арганізацыяў, якая была створана на тэрыторыі Беларусі з мэтай узброенага змаганьня супраць расейскага самаўладдзтва, была «Віленская асацыяцыя». Гэтая арганізацыя нават распрацавала плян узброенага змаганьня – так званы «Акт віленскага паўстаньня». Плян гэты ня быў дапрацаваны: у 1797 годзе «Віленскую асацыяцыю» раскрылі. Трэба сказаць, што гэта была вельмі законсьпіраваная арганізацыя. Туды ўступалі па рэкамэндацыі яе сябраў. Той, хто ўступаў, ведаў толькі тых, хто яго рэкамэндаваў. «Віленская асацыяцыя» так непакоіла расейскія ўлады, што калі тыя яе раскрылі, некалькі дзясяткаў чалавек (на гэты конт існуюць розныя зьвесткі) былі прысуджаныя да сьмерці. Праўда, потым гэты прысуд адмянілі.

***– Улёткі, якія выдае «КРАЙ», ці ня надта тэндэнцыйна падабраны для іх гістарычны матар'ял?***

– Усе гэтыя зьвесткі узятыя з афіцыйна выдадзеных навуковых працаў. Ня бачу нічога крамольнага. Адзіную заўвагу магу зрабіць адносна датаў, «якія мусяць памятаць і шанаваць беларусы». У грамадзтве сёньня па-рознаму адносяцца да гэтых падзеяў. Напрыклад, 8 верасьня 1514 году – «Дзень беларускае вайсковае славы», так званая бітва пад Воршай. Пытаньні аб значэньні гэтае бітвы сёньня зьяўляецца палітычным. Нагадаю, што 8 верасьня, амаль пяць стагоддзяў таму, армія Вялікага княства Літоўскага разбіла войска Маскоўскага княства. Бітва адбылася з-за таго, што дзьве дзяржавы спрачаліся аб тым, якая зь іх стане цэнтрам аб'яднаньня усходнеславянскіх плямёнаў і народаў. Спачатку перавага

**«Тыя, хто жылі да нас, шмат зьдзейсьнілі, але нічога не давялі да канца»** *Сэнэка*

была на баку ВКЛ, аднак паступова ініцыятыву перахапіла Масква. І якімі б ні былі адносіны паміж нашымі дзяржавамі сёньня, гісторыю трэба ведаць. Аднак ня трэба пераводзіць гэтыя веды ў палітычную сфэру. Да такіх рэчаў трэба адносіцца больш спакойна. Ня трэба думаць, што гэта будзе спрыяць, як цяпер любяць казаць, «узмацненьню нацыянальнае варожасьці паміж двума народамі». То былі зусім іншыя часы. Экстрапаляваць шаснаццатае стагоддзе на дваццаць першае, на мой погляд, не зусім правільна.

***– Ці лічыце Вы арганізацыю «КРАЙ» небясьпечнай?***

– Усе маладзёвыя арганізацыі, як правіла, носяць радыкальны характар. У свой час з такімі радыкальнымі ідэямі выступалі многія, казалі: старое пакаленьне вычарпала сябе, трэба замяніць яго новымі, сьвежымі сіламі, і калі мы гэтага ня зробім, то ніхто ня зробіць і г. д. Усе гэта мне знаёма. З часам такія настроі звычайна праходзяць. Галоўнае, каб словы й заклікі краёўцаў не перарасьлі ў рэальныя дзеяньні. Гэтыя хлопцы не павінны шукаць ворагаў, кіруючыся ўласным пунктам гледжаньня. А ў прынцыпе ў іх нармальныя ідэі – нацыянальнага адраджэньня, фізычнага выхаваньня, – якія варта падтрымаць.

**Вёў гутарку Андрэй Някрасаў**
**«Варшаўскі мост»**, *2001, 28 сакавіка, № 11 (116).*

*Друкуецца ў скароце. Поўны тэкст чытайце на сайце «КРАЙ»* **(www.spa-kraj.org)**

**Палеміка**

# Са «Згодай» ня згодныя

У газэце «Згода» №14 (7 красавіка 2001г.) зьявіўся артыкул «Нас кідала маладосьць...», у якім Антось Саковіч дае свой погляд на маладзёвы рух Беларусі, падзяляе яго на групы. Асабліва нэгатыўным было стаўленьне аўтара да арганізацыі «КРАЙ»: беспадстаўныя выпады ды домыслы. Паспрабуем разабрацца ў гэтым.

Аўтар артыкула сьцьвярджае: «Эстэтычна яны ўяўляюць з сябе беларускі варыянт украінскага УНА-УНСО, альбо расейскіх РНА і НБП (лімонаўцы): вельмі жадаюць падавацца крутымі, але ў адрозьненьне ад расейска-украінскіх аналагаў значна памяркоўней і цішэй». Гэтае параўнаньне мы чулі ня раз ад недасьведчаных людзей. Тыя, хто мае пэўную інфармацыю пра арганізацыю «КРАЙ», ведаюць, што паміж беларускімі нацыяналістамі й РНА ды НБП - вялікая розьніца: у мэтах, праграме, падыходах, а галоўнае - у сутнасьці. Мы - прыхільнікі нармальнага разьвіцьця й стану Беларускага Народу, выступаем за захаваньне беларускай культуры, адраджэньне духоўнасьці, аднаўленьне сапраўднай беларускай дзяржаўнасьці. Расейскія радыкалы «ратуюць» за разбурэньне й анархію, распаўсюджваюць рэцэпты выбуховых рэчываў, заклікаюць да вайны супраць усіх. Фактычна ім патрэбныя толькі правакацыі, безуладдзе. Беларускія нацыяналісты гуртуюцца вакол Нацыянальнай Ідэі, твораць будучыню Бацькаўшчыны, фармуюць нацыянальную эліту як падмурак разьвіцьця Беларускага Народу.

За нас кажуць нашыя справы, мы верым толькі ім, а ня розным словам, росказьням. Таму нам ня трэба крычаць пра гэта на вуліцах. Можа, таму арганізацыя «КРАЙ» і падалася аўтару артыкула «занадта памяркоўнай і ціхай».

Нельга назваць «КРАЙ» і «адстойнікам для падлеткаў, пазбаўленых дэмакратамі ўсіх прывабнасьцяў савецкіх піянэрскіх лягераў з вайскова-патрыятычнымі гульнямі «Зарніца». На самой справе каля 50% сяброў арганізацыі «КРАЙ» - студэнты ВНУ. Зараз яны атрымліваюць адукацыю, каб прыносіць карысьць Беларускаму Народу. Разьвіваючы інтэлектуальныя здольнасьці, мы не забываемся пра ўдасканальваньне духоўнае і фізычнае. Каб загартаваць свой дух, навучыцца пераадольваць усе перашкоды, перамагаць цяжкасьці, неабходна стала займацца й ўдасканальваць сябе. Фізычныя заняткі, трэніроўкі ды вышкалы дапамагаюць у гэтым.

А. Саковіч заяўляе, што «ім вельмі не хапае ў штодзённым жыцьці пачуцьця статку, герархіі, магчымасьці падпарадкоўвацца адным, падпарадкоўваць іншых сабе». Усё з дакладнасьцю да наадварот. Справа ў тым, што чалавеку цяжка зрабіць першы крок да змаганьня, вырвацца з будзённасьці, адмовіцца ад «статкавага прынцыпу». Для большасьці жыць ў сваё задавальненьне, чакаць нейкага збаўцы ды спадзявацца на цуд, стала нормай. **Мы ж гуртуем людзей, якія жадаюць вырашаць свой лёс самі, а не спадзявацца на кагосьці.** Філёзафы сьцьвярджаюць, што чалавека ад жывёліны адрозьнівае наяўнасьць духоўных патрэбаў, адчуваньне абавязку перад народам. Рэдкі чалавек зможа адмовіцца ад «обывательщины» ды аддаць усяго сябе служэньню свайму народу.

**Зьневажаюць ды крыўдзяць толькі таго, хто дазваляе гэта рабіць.** Мы такой раскошы сабе дазволіць ня можам, таму суровая дысцыпліна ды абавязак маюць для нас пэўнае значэньне. «КРАЙ» цалкам адпавядае значэньню паняцьця «арганізацыя», бо за намі няма віртуальнага змаганьня, працы ды сяброў на паперы. Гэта не тусоўка, ня клюб па інтарэсах, а сапраўдная сыстэма, структура, база.

Толькі так можна накапіць патэнцыял, пашырыць рух, падрыхтавацца й арганізаваць сапраўднае змаганьне. Сьвядомасьць, сумленнасьць, адказнасьць - нашыя прынцыпы. Такім шляхам ішлі ўсе нацыянальна-вызвольныя арганізацыі ўсяго сьвету. Напрыклад, польская «Салідарнасьць» ў 70-80-я гг. Арганізацыя - гэта не тусоўка, ня «творчае» змаганьне, а патрэба й неабходнасьць. Барацьба - гэта не гульня па правілах рэжыму.

Сьцьверджаньне А. Саковіча пра «цякучасьць кадраў і нешматлікасьць» арганізацыі разлічана на недасьведчаных чытачоў і ня ўтрымлівае фактаў. А фактам ёсьць тое, што былых краёўцаў

***Працяг на стар 12***

**«Праўда ваяўнічая, і яна змагаецца ня толькі супраць няпраўды, але і супраць асобных людзей, якія яе распаўсюджваюць»** *Б. Брэхт*

# "КРАЙ" у Internet
# www.spa-kraj.org
## Запрашаем наведаць старонку беларускіх нацыяналістаў

Працяг са стар.11

не існуе: ёсьць сябры дзейсныя, ёсьць кандыдаты ў арганізацыю й ёсьць прыхільнікі «КРАЮ». Каб стаць краёўцам, трэба прайсьці праз пэўныя выпрабаваньні, таму да нас прыходзяць толькі найлепшыя беларусы. Ідэйныя, валявыя, разумныя, рашучыя, трывалыя, непахісныя - гэта нашыя людзі. Мы выдатна разумеем, што з такімі рысамі характару людзі не нараджаюцца. Гэтыя й іншыя якасьці трэба разьвіваць у чалавеку, таму выпрабаваўчы тэрмін у арганізацыі складае шэсьць месяцаў. І ўсё ж кожны, хто сапраўды жадае працаваць у арганізацыі, у стане прайсьці праз усе выпрабаваньні. Трэба ўсьвядоміць неабходнасьць гэтага кроку для жыцьця Нацыі й ісьці наперад да ажыцьцяўленьня Мэты, дзеля якой варта жыць. Сам факт таго, што арганізацыя «КРАЙ» паўстала й разьвіваецца ў неспрыяльных умовах, бяз зьнешняй падтрымкі, сьведчыць пра многае.

Далей журналіст выказаў цікавую думку: «На месцы Лукашэнкі я бы арганізаваў фінансавую падтрымку менавіта «КРАЮ». Калі гэта перадвыбарчыя абяцанкі кандыдата ў прэзыдэнты А. Саковіча, то паведамляем яму, што мы служым Ідэі, свайму народу, а не асобным палітыкам ці грошам. Таму раім пашукаць падтрымкі ў іншых месцах. Толькі глядзіце, спадар «палітык», каб маладосьць сапраўды вас ня «кінула».

**Расьціслаў Пяткевіч**

## МАЛІТВА БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛІСТА

(паводле Вацлава Ластоўскага)

У імя Беларускага Народу, за яго славу, шчасьце і свабоду. Станься.

Войча наш, каторы ёсьць у небе, вярні нам волю і валадарства на зямлі нашай, даўно й цяжка паярэмленай.

Хай не адымаюць чужынцы хлеб штодзённы ад вуснаў нашых дзяцей. Адпусьці грахі нашым продкам, каторыя ня ўмелі абараніць сваёй і сваіх нашчадкаў свабоды. Ня ўводзь нас у спакусу ўлегласьці тым, што паярэміілі нас, але збаў нас ад чужацкае апекі. Станься.

Вітай, Беларуская зямелька, потам і крывёю нашай палітая, праўда з табою. Бласлаўлёна Ты паміж усімі краінамі сьвету і бласлаўлёны плод лона твайго, Беларус. Сьвятая зямелька, Маці нашая! Табе ў ахвяру ўскладаем мы ўсе сілы цяпер і ў момант сьмерці нашае. Веру ў Бацькаўшчыну нашу Беларусь і ў народ наш, сына яе адзінага, каторы на сьвет прыйшоў свабодным, нарадзіўся з волі нікім не паярэмленай. Змучаны быў маскалямі й палякамі, загнаны ў прыгонную няволю. Але хутка ўваскросьне з мёртвых, узыйдзе на пасад свабоды і будзе магутны паводле заслуг судзіць сваіх ворагаў і крыўдзіцеляў. Веру ў творчасьць Духа народнага, у лучнасьць нашых сіл грамадзкіх, у аб'яднаньне ўсіх земляў беларускіх у адну дзяржаву й шчаснасьць векавечную. Станься.

Слава Беларускаму Краю ва ўсіх яго гістарычных імёнах – Крывіі, Літвы, Беларусі, як было спрадвеку, так і цяпер на векі вечныя. Станься.

Сьвятая свабода, выражаная дзяржаўнай самаіснасьцю Беларускага Народу, Ты нашая пацяшыцелькай надзея, адзіная Мэта і Праўда нашая, прыйдзі, усяліся ў нас і ачысьці нас ад усялякага рабства й збаў нас ад няволі. Станься.

## Шаноўны чытач!

Каб атрымаць газэту «Голас Краю», дашлі замову на адрас рэдакцыі. У замове трэба пазначыць імя, прозьвішча і свой адрас. Адзін нумар каштуе 200 рублёў.

«Голас Краю» можна набыць у сядзібе ТБМ (г. Менск, вул. Румянцава, 13).

*Будзь разам з намі!*

Газэта «Голас Краю» заснавана спартова-патрыятычнай арганізацыяй«КРАЙ». Год заснаваньня1999. Рэдактар Яўген Садоўскі



Адрас для ліставаньня:
220037, г. Менск, а/с 49
(8-017) 249-00-00, аб. 7315
e-mail: spa_kraj@hotmail.com
www.spa-kraj.org